Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 13 студзеня 1999 г. № 3 (534) Кошт свабодны

***Прамая лінія***

**Шаноўныя чытачы!**

**У пятніцу, 15 студзеня, гадоўны рэдактар газеты НАВІНЫ Павел Жук з 13.00 да 14.00 па тэлефоне (017) 236-89-40 будзе адказваць на вашыя пытанні.**

## Камітэт абароны дзейнічае

**Прадстаўнікі нядаўна створанага Камітэта абароны Бацькаўшчыны перадалі ў панядзелак у Генеральнае консульства РФ у Брэсце пратэст супраць аб'яднання Беларусі і Расіі.**

Аўтары звароту адзначаюць, што падпісаная 25 снежня паміж Лукашэнкам і Ельцыным дэкларацыя накіраваная на ліквідацыю незалежнасці Беларусі. Актывісты камітэта таксама лічаць, што сумесная ахова дзяржаўнай мяжы з'яўляецца падставай для ўвядзення на тэрыторыю краіны *«частак акупацыйнай расійскай арміі»*. *«Камітэт абароны Бацькаўшчыны не дапусціць акупацыі і каланізацыі Беларусі»*, — гаворыцца ў канцы звароту.

Расійскі консул у Брэсце Барыс Радзімаў спачатку не зразумеў, чаго хочуць ад яго людзі, што прынеслі пратэст, і запрасіў іх выпіць гарбаты. Пасля, відаць, дыпламат зарыентаваўся ў сітуацыі і выразна запрасіў беларускіх апазіцыянераў не частаваць, але іх зварот прыняў.

Дарэчы, пасля падпісання маскоўскай дэкларацыі аб аб'яднанні дзвюх краінаў, у дыпламатычныя прадстаўніцтвы Расіі ў Беларусі прыходзіць нямала такіх зваротаў. А напярэдадні Новага года ў Брэсцкае генконсульства РФ прыйшоў незвычайны падарунак. Нейкі жартаўнік даслаў расійскім дыпламатам пахавальны вянок.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Мяжа на замку

**За мінулы тыдзень беларускімі пагранічнікамі быў затрыманы 41 парушальнік мяжы, спынена 14 спробаў незаконнага перамяшчэння праз мяжу тавараў на агульную суму 3 мільярды 190 мільёнаў рублёў.**

У мінулую сераду пры праверцы на беларуска-літоўскай мяжы грузавога цягніка, што ішоў маршрутам «Калінінград—Екацярынбург», памежнікі знайшлі ў адным з вагонаў каля 6 тон незадэклараванага селядца на суму ў 1 мільярд 700 мільёнаў рублёў.

На беларуска-ўкраінскай мяжы «здабычай» беларускіх памежнікаў сталі каля 400 кілаграмаў хурмы і 4.300 штук яек. Вывезці іх на Украіну спрабавалі грамадзяне гэтай краіны.

6 студзеня ў Гомелі і 10 студзеня ў Добрушскім раёне Гомельскай вобласці памежнікі затрымалі 3 грамадзянаў Індыі, 5 грамадзянаў Пакістана і двух беларусаў, якія дапамагалі нелегальным мігрантам перайсці мяжу. 3 грамадзяніны Афганістана былі затрыманыя памежнікамі 10 студзеня ў пункце пропуску «Брэст-Цэнтральны» — яны спрабавалі перасячы мяжу па падробных дакументах.

*БелаПАН*

## Гарвыканкам дапамагае

**Мінскі гарвыканкам вырашыў дапамагчы родным ваеннаслужачых, якія загінулі падчас выканання г.зв. «інтэрнацыянальнага абавязку» ці падчас праходжання ваеннай службы ў мірны час.**

Згодна з рашэннем гарвыканкама, з 1 студзеня гэтага года сем'ям загінулых прадастаўляюцца 50% скідкі пры аплаце жылой плошчы і камунальных паслугаў. На палову менш сем'і загінулых будуць плаціць і за мясцовыя тэлефонныя размовы. Акрамя таго, такім сем'ям забяспечваецца пазачарговая ўстаноўка кватэрных тэлефонаў з аплатай у памеры 20% ад устаноўленай платы.

Капітальны рамонт дамоў і кватэр сем'яў загінулых будзе фінансавацца з мясцовага бюджэту. Члены сем'яў загінулых ваеннаслужачых замацоўваюцца за аптэкамі па месцы жыхарства і бясплатна будуць атрымліваць лекі па рэцэптах урачоў.

Рамонт помнікаў загінулых ваеннаслужачых будзе таксама ажыццяўляцца за дзяржаўны кошт. Пры гэтым сем'і штогод будуць атрымоўваць 5 мінімальных заробкаў на набыццё кветак для наведання месцаў пахавання загінулых.

*БелаПАН*

***Удакладненне***

Учора наша газета паведаміла пра чарговы арышт апазіцыянера-камуніста Валерыя Шчукіна на 10 сутак. Тым не менш, як нам стала вядома, Шчукін да сённяшняга дня знаходзіцца на волі.

Справа ў тым, што ён пакуль хварэе і таму не можа ўтрымлівацца за кратамі. Але сёння заканчваецца дзеянне яго нагага бальнічнага ліста, і калі ён не будзе працягнуты, то Шчукін ўжо заўтра пачне сваю чарговую «адсідку». У такой сітуацыі і не ведаеш, чаго лепей пажадаць Валерыю Аляксеевічу: хутчэй выздараўліваць ці пахварэць яшчэ крыху.

# Выклік уладзе ці ашуканства?

**Беларускія палітыкі каментуюць рашэнне Вярхоўнага Савета аб прэзідэнцкіх выбарах.**

Рашэнне Вярхоўнага Савета 13-га склікання аб прызначэнні прэзідэнцкіх выбараў на 16 траўня і стварэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі па-рознаму сустрэта палітыкамі Беларусі. З большага вітаюць гэты крок прадстаўнікі дэмакратычных арганізацыяў. Сойм БНФ, у прыватнасці, ужо абмеркаваў ініцыятыву ВС і выказаўся ў яе падтрымку. Каментуючы навіну, намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка назваў рашэнне Вярхоўнага Савета «адказным і мужным». *«Гэта адназначна выклік рэжыму, і адказам на яго, хутчэй за ўсё, будуць рэпрэсіі супраць дэпутатаў, членаў Цэнтрвыбаркама і агітатараў за выбары»*, — сказаў Юры Хадыка. Між тым ён упэўнены, што вынікам будзе аслабленне рэжыму, які *«відавочна аддаў ініцыятыву ў рукі апазіцыі»*.

Становча ставяцца да рашэння дэпутатаў таксама кіраўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Грамада на чале са Станіславам Шушкевічам і сацыял-дэмакраты пад кіраўніцтвам Міколы Статкевіча. Аднак, дэмакраты сумняваюцца, што абвешчаныя выбары будуць. *«Безумоўна, улады не дадуць давесці справу да лагічнага канца, аднак Вярхоўны Савет паступіў правільна ў любым выпадку. Гэты крок безумоўна будзе спрыяць аднаўленню законнасці ў краіне»*, — лічыць былы старшыня ВС 12-га склікання Мечыслаў Грыб. А вось адзін з лідэраў АГП Генадзь Карпенка робіць агаворку. *«Стварэнне Цэнтрвыбаркама ўжо зараз паспешлівае. Трэба было ўзгадніць гэты пункт пастановы ВС з палітычнымі партыямі, больш строга выканаць усю працэдуру фармавання выбарчай камісіі, падключыць шырокае насельніцтва. Калі рашэнні не знаходзяць падтрымкі ў народа, і я баюся, каб не атрымалася, як у 1996 годзе»*, — заявіў НАВІНАМ Генадзь Карпенка, які з большага ўсё ж вітае рашэнне аб правядзенні прэзідэнцкіх выбараў.

У адрозненне ад правых, левы фланг беларускай палітыкі не дэманструе адзінства. Дагэтуль не выказалі сваіх адносінаў да ініцыятывы ВС камуністы на чале з Сяргеем Калякіным, а вось КПБ Віктара Чыкіна не хавае свайго адмоўнага стаўлення. Адзін з відных прапрэзідэнцкіх камуністаў дэпутат Сяргей Касцян назваў рашэнне ВС «чарговай правакацыяй» і патлумачыў яе мэты: па-першае, выбіць слязу ў міжнароднай супольнасці, па-другое, скампраметаваць само паняцце апазіцыя. *«Гэтым дзеячам нічога не дапаможа. Выбары прэзідэнта пройдуць у 2001*

*(Працяг на стар.2)*

# Яшчэ адно беларускае радыё?

**Польская газета *Zycie Warszawy* паведаміла, што кансерватыўны дэпутат літоўскага парламента Рымантас Плейкіс, былы міністр сувязі, збіраецца адчыніць радыёстанцыю, якая будзе вяшчаць на Беларусь.**

Плейкіс, які мае поўную падтрымку спікера літоўскага Сейма Ландсбергіса, такім чынам хоча зламаць манаполію адданых прэзідэнту Лукашэнку сродкаў масавай інфармацыі і падаваць беларускаму грамадству аб'ектыўную інфармацыю. Частку радыёпраграм збіраюцца складаць у Літве, а частку запісваць у Беларусі. Плейкіс, журналіст па адукацыі, збіраецца супрацоўнічаць з журналістамі зачыненага беларускімі ўладамі *Радыё 101,2*.

Рымантас Плейкіс паведаміў нашаму карэспандэнту ў Вільні, што ён прапанаваў праект *Balties Banga* (Балтыйская Хваля), паводле якога павінна быць створаная ра-дыёстанцыя, цалкам забяспечаная тэхнічна на тэрыторыі Літвы. Станцыя будзе трансляваць на кароткіх хвалях. Паводле задумы, да праекта мусілі б далучыцца зацікаўленыя міжнародныя фонды, урадавыя і няўрадавыя структуры некаторых краінаў.

Прапанаваная канцэпцыя знайшла як прыхільнікаў, так і апанентаў у асобах міністра замежных справаў сп.Саўдаргаса і прэс-сакратара прэзідэнта сп.Янушкі. Яны выказваюць сумневы адносна правамоцнасці аднаго дэпутата Сейма выступаць з такімі радыкальнымі міжнароднымі ініцыятывамі, што могуць абцяжарыць адносіны з Беларуссю. Гэта можа паўплываць на выкананне Дамовы аб дэмаркацыі мяжы, рэадмісій (вяртанне нелегалаў) і Дамовы аб дэмілітарызацыі памежнай зоны.

Але, нягледзячы на апанентаў, сп.Плейкіс не адмаўляецца ад сваёй задумы.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ, Сяргей ХАРЭЎСКІ**

## Долар расце

**Падвышэнне мінімальнага заробку ад 350.000 да 500.000 рублёў адразу пацягнуў за сабой рост кошту валюты на «чорным» рынку.**

У першыя дні новага года цана долара вагалася каля 260.000 рублёў. Але ўжо 9 снежня за яго давалі 300.000 рублёў. На сённяшні дзень наяўны долар можна прадаць за 310.000 рублёў. Па некаторых прагнозах, да канца месяца кошт долара можа дасягнуць 500.000. Безнаяўны курс вагаецца ад 400.000 да 440.000 рублёў. Афіцыйны курс па-ранейшаму значна адстае ад рэальнага і ўстаноўлены на ўзроўні 109.000 рублёў за долар.

**П.А.**




## Мінюст супраць

**Міністэрства юстыцыі Беларусі вырашыла выказацца наконт сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў, абвешчаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання.**

Нагадаем, што 10 студзеня на паседжанні ВС было прынятае рашэнне аб правядзенні прэзідэнцкіх выбараў 16 траўня гэтага года.

Як паведаміла прэс-служба Мінюста, заява апазіцыі аб выбарах кіраўніка дзяржавы на падставе рашэнняў Вярхоўнага Савета не мае пад сабой прававой асновы, бо для прыняцця падобных рашэнняў неабходна захаванне рэгламенту. У прыватнасці, трэба, каб на паседжанні прысутнічала дастатковая колькасць дэпутатаў (не меней за сто), а гэта, на думку Мінюста, практычна немагчыма, паколькі большая частка дэпутатаў 13-га склікання страціла свой статус: шмат хто з іх цяперашнім часам з'яўляюцца членамі Нацыянальнага сходу, іншыя перайшлі на дзяржслужбу.

У такой сітуацыі, заяўляе Мінюст, паведамленне аб правядзенні сесіі Вярхоўнага Савета 13-га склікання варта расцэньваць не інакш, як абвяшчэнне аб паседжанні групы грамадзянаў, якое мае значэнне толькі для саміх яго ўдзельнікаў.

*БелаПАН*

***Надвор'е***

Учора наша краіна трапіла пад уладу «паўднёвага» цыклону, які ўзнік над захадам Міжземнамор'я. Набраўшыся тут вільгаці, ён прынёс на Беларусь снегапады і мяцеліцу. Такое надвор'е нават дарэчы. У ноч з 13 на 14 студзеня некаторыя людзі адзначаюць стары Новы год. У бліжэйшыя суткі надвор'ем будзе кіраваць атлантычны цыклон, цэнтр якога знаходзіцца над поўднем Скандынавіі. Чакаюцца невялікія маразы і час ад часу снег. Вецер паўднёва-заходні і заходні, умераны. Тэмпература ноччу ад 4 да 9 градусаў марозу, а днём – ад 1 да 6 градусаў ніжэй нуля.

**Вера ЧЫЖЫК**

# Увага! Наперадзе перапіс!

**Грамадзяне Беларусі павінны быць пільнымі і падрыхтаванымі да гэтай нібыта простай, аднак пагрозлівай для нацыянальнага адраджэння справы перапісу насельніцтва.**

Па-першае, перапісныя лісты, зацверджаныя загадам міністра статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь № 223 ад 02.10.1998, падрыхтаваны толькі на рускай мове, што з'яўляецца грубым парушэннем Канстытуцыі Беларусі і Закона аб мовах. Таму парада: патрабуйце на аснове артыкула 50 канстытуцыі 1996 года ад перапісчыкаў бланкі на беларускай мове і запаўнення іх таксама па-беларуску. Найбольшую небяспеку захоўвае «пяты пункт» перапіснога ліста. Пры савецкай уладзе тут была графа «нацыянальнасць», цяпер — «язык». Гэты раздзел складаецца з трох пытанняў. Першага пытання «родной язык» спачатку не было, потым, пад ціскам грамадскасці, яно з'явілася.

Наступныя пытанні — «На каком языке вы обычно разговариваете дома?» і «Другой язык, которым свободно владеете?» Дома многія нашыя грамадзяне размаўляюць на «трасянцы», якая, хутчэй за ўсё, атрымае назву «русский язык».

Пытанне пра другую вядомую мову нават у савецкіх анкетах ставілася больш карэктна. Не «другой язык», а «другие языки, которыми вы свободно владеете». Гэта важна ў беларускіх умовах, калі, напрыклад, мноства грамадзянаў Заходняй Беларусі добра ведаюць не толькі рускую, але і польскую мову, а на Палессі — украінскую і г.д. Але ўладам патрэбны толькі адзін адказ. Другая мова — толькі руская, калі яна ўжо не першая.

Такі перапіс павінен паказаць свету, што беларусаў у Беларусі не большасць, а меншасць, таму аб'яднанне з Расіяй неабходнае. Таму, грамадзяне, добра падумайце, калі будзеце адказваць на пытанні перапіснай анкеты.

**Алег ТРУСАЎ,**
*першы намеснік старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны*

# Немцы зацікавіліся прыёмнікам-размеркавальнікам

**У рамках праекта «Вулічныя дзеці» ў кастрычніку мінулага года я наведала ў Мінску дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік на вуліцы Акрэсціна.**

Тут утрымліваецца рэгулярна 30—40 непаўналетніх, ва ўзросце ад трох да семнаццаці гадоў. Гэта дзеці, якія ўцяклі ад бацькоў альбо здзейснілі злачынства. Тут вырашаецца іх далейшы лёс: каго адвозяць дадому, а нехта трапляе ў спецустановы. Памяшканне пабудаванае ў 1972 годзе і знаходзіцца пад вартай. Вокны абсталяваны кратамі. Усе супрацоўнікі гэтай установы, у тым ліку жанчыны, носяць уніформу. Стан гэтага «дзіцячага ізалятара» нас уразіў, асабліва прымітыўна абсталяваны ванны пакой. З нядаўняга часу тут з'явіліся гульні і цацкі, на падлозе пасланы дыван, дзе дзеці забаўляюцца. Гэта стала магчыма дзякуючы першай гуманітарнай дапамозе прыёмніку-размеркавальніку. У спальных пакоях стаяць па 5—6 ложкаў, якія не мянялі з 70-х гадоў. Дзеці, якія трапляюць у прыёмнік з вуліцы, праходзяць медыцынскае абследаванне, бо яны часта хварэюць на венерычныя захворванні, маюць іншыя інфекцыі.

Падобная ўстанова для дзесяці-дваццаці дзяцей ёсць у Магілёве. Нядаўна ў Мазыры ў адным з дзіцячых садкоў дзейнічае ўстанова для «вулічных» дзяцей, дзе працуюць тры жанчыны. Цяпер там знаходзяцца каля пяці хлопчыкаў і дзяўчынак, якія рэгулярна ходзяць у школу. Чакаецца, што такіх дзяцей у мазырскім прыёмніку збярэцца каля дваццаці, бо ўсё больш сем'яў распадаецца. Для гэтых установаў шэраг нямецкіх ініцыятываў, якія дапамагаюць «чарнобыльскім» дзецям, прыслалі гуманітарную дапамогу. У прыватнасці, для мінскага прыёмніка-размеркавальніка добрыя, двух'ярусныя ложкі, якія ахвяраваў дзіцячы пансіянат з Германіі. Акрамя гэтага, у гуманітарным грузе ёсць бялізна, прадметы гігіены, медыкаменты, адзенне і шмат што іншае. На жаль, маленькія дзеці размяшчаюцца ў прыёмніку разам са старэйшымі, і было б добра адчыніць у Мінску і Магілёве прыёмнікі для дзяцей ад трох да сямігадовага ўзросту. У вашай краіне ўсё больш дзяцей становяцца бяздомнымі. Наступствы чарнобыльскай катастрофы абцяжарвае яшчэ і складанае эканамічнае становішча. Пад гэты прэс лёгка трапляюць найбольш слабыя члены грамадства.

**Эфа БАЛЬКЕ,**
*член нямецкага аб'яднання «Дзецям Чарнобыля»*

# Выклік уладзе ці ашуканства?

*(Пачатак на стар. 1)*

*годзе, і на апазіцыі будзе паставлены крыж. А слова «апазіцыя» стане такой жа лаянкай, як «камуніст» у 1991 годзе»,* — упэўнены Сяргей Касцян.

*«Ашуканства і ўвядзенне ў зман выбаршчыкаў»* — так ахарактарызавала старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах і правядзенні рэферэндумаў Лідзія Ярмошына рашэнне Вярхоўнага Савета Беларусі па правядзенні выбараў прэзідэнта. У сваім інтэрв'ю галоўнай афіцыйнай газеце «Советская Белоруссия» Лідзія Ярмошына заявіла, што *«падобнымі дзеяннямі апазіцыя імкнецца ўнесці бязладдзе і смуту»*, паведамляе БелаПАН.

Не бачыць ніякіх шанцаў на поспех ініцыятывы апазіцыйных дэпутатаў і вядомы прэзідэнцкі паплечнік Сяргей Посахаў. Пагадзіўшыся пракаментаваць рашэнне ВС выключна як грамадзянін, а не чыноўнік, Посахаў заявіў, што бачыць адзінае жаданне ў дэпутатаў — *«атрымаць рэванш за пройгрыш 1996 года»*. Ён упэўнены, што гэта не ўдасца. Спадар Посахаў не лічыць дзеянні дэпутатаў абаронай законнасці. *«Трэба ўлічваць рух мільёнаў людзей, якія аказаліся далёка ад таго парламента»,* — заявіў былы прэзідэнцкі дарадца. Між тым ён лічыць, што *«нейкі дыялог з апазіцыйнымі дэпутатамі ўсё ж патрэбны»*.

Так і не ўдалося высветліць пазіцыю беларускіх ліберал-дэмакратаў. Лідэр ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч адмовіўся каментаваць дзеянні ВС 13-га склікання, спаслаўшыся на тое, што партыйная пазіцыя яшчэ не выпрацаваная. Адной з грамадскіх арганізацыяў, меркаваннем якой мы пацікавіліся, была Хартыя-97. Па словах Людмілы Грaзновай, «хартысты» вітаюць рашэнне Вярхоўнага Савета і звязваюць з ім надзею на новы ўсплеск грамадскай актыўнасці. Аднак выказваецца занепакоенасць, каб актыўнасць людзей не была патрачаная на безвыніковую справу, у той час як іншыя канкрэтныя рэчы акажуцца ўбаку.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Вяртанне да савецкага мінулага

**Мясцовыя ўлады ў Пружанах пачалі вяртаць гарадскім вуліцам старыя савецкія назвы. Нядаўна райвыканкам прыняў рашэнне вярнуць на вуліцу Забродскую старыя шыльды з імем бальшавіка Вінаградава.**

У 1993 г., на хвалі нацыянальнага адраджэння, Пружанскі гарсавет вярнуў вуліцы Вінаградава гістарычную назву Забродская, якую яна насіла да 70-х гадоў. І вось пайшоў адваротны працэс. У райвыканкаме сцвярджаюць, што да іх паступіў зварот жыхароў гэтай вуліцы, якія просяць вярнуць савецкую назву, бо ў іх, нібыта, з'явіліся праблемы з пераафармленнем дакументаў. Мясцовыя вертыкальшчыкі адразу ж ухапіліся за гэтую «просьбу працоўных» і вырашылі справу на карысць падпісантаў звароту. Актывісты пружанскіх культурніцкіх арганізацыяў, праўда, спрабавалі пратэставаць супраць гэтай акцыі ўладаў, але безвынікова. Па нашых звестках, ініцыятарамі звароту аб пераназове вуліцы выступілі некалькі ветэранаў, якія лічаць, што таварыш Вінаградаў шмат зрабіў для іхняга горада і варты, каб яго імя насіла вуліца.

Вінаградаў у 1920 годзе, адзін месяц кіраваў Пружанскім рэўкамам, а пасля ўцёк з горада ў абозе Чырвонай арміі пад націскам частак Польскага войска. Больш у Пружанах ён не з'яўляўся.

Актывісты мясцовых дэмакратычных арганізацыяў лічаць, што такім чынам улады хочуць знішчыць апошнія сляды беларусізацыі пачатку 90-х гадоў. Яны не выключаюць, што падобны лёс можа чакаць і вуліцу Рыгора Шырмы, якая да 1993 г. насіла назву Камуністычная.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Из Беларуси уже эмигрируют даже в Россию

**Случаи, когда наши сограждане просят политического убежища в развитых цивилизованных странах, уже не являются исключительными. А вот эмиграция в Россию — пока вещь непривычная.**

53-летняя гражданка Беларуси Лидия Цингалёва в ближайшее время собирается в Москву — просить убежища в России. Политического либо экономического, или обоих сразу. Она считает, что и на то, и на другое имеет все основания.

В своё время Л.Цингалёва была активным членом БНФ. В 1990 г. против неё было возбуждено уголовное дело за то, что она, вместе с другими участниками антикоммунистического митинга, возлагала чучело-скелет к памятнику Ленину. Лидию Цингалёву обвиняли в *«злостных хулиганских действиях с особой дерзостью и исключительным цинизмом»* и в *«грубом нарушении общественного порядка»*. Через полтора года дело было прекращено Мингорсудом *«вследствие изменения обстановки»*. А в 1995 г. Л.Цингалёву уволили с работы (горничной в столичной гостинице «Беларусь») — как она утверждает, по политическим мотивам.

*«Таким образом, нас с несовершеннолетней дочерью власти сделали нищими»*, — говорит Лидия Алексеевна. В назначении государственного пособия на дочь, страдающую заболеванием щитовидной железы, органы социального обеспечения отказали; в официальном ответе говорится, что девочка *«обучается в профессиональном училище и получает ежедневное одноразовое питание»*. Этого, дескать, вполне достаточно.

Цингалёвой оказывали материальную поддержку её друзья, а также христианские организации. Однако это — не постоянные источники. Больная пожилая женщина вынуждена была собирать бутылки, торговать сигаретами, просить милостыню. Последние два года занятий не раз приводили к контактам с милицией — её задерживали, избивали и отнимали деньги. От обращений Л.Цингалёвой в высокие инстанции, естественно, не было никакого проку. С целью *«поддержания порядка на улицах»* и *«обеспечения прав населения»* (!) *«работники милиции имеют право проводить с гражданами разъяснительные беседы»*, — доводится до избитой женщины в ответе А.Черникевича, чиновника из министерства внутренних дел. Формы и методы «разъяснительных бесед», видимо, сомнений у него не вызывают.

Вообще, ответы Лидии Алексеевне из разных инстанций — хорошая иллюстрация к очевидному факту: стремление нынешнего режима регламентировать все сферы жизни приводит к абсурду. То, что Цингалёвой запретили проводить пикет с требованием восстановления на работе — тут всё понятно, было бы удивительно, если бы разрешили, — ну, не любит режим публичных протестов. Но вот дальнейшее объяснению не поддаётся. После запрета Лидия Цингалёва обратилась в Мингорисполком, чтобы её хотя бы не преследовали за сбор милостыни. И ей сообщили, что таковое действие *«будет мешать транспортному функционированию и создаст некоторые неудобства другим гражданам»*. Самое же интересное — в том, что, как пишет заведующий юридическим отделом В.Октысюк, *«такой вид волеизъявления граждан, как сбор милостыни, не предусмотрен Положением о порядке проведения собраний, митингов, уличных шествий и демонстраций»*. При чём здесь митинги и демонстрации? Какое там «волеизъявление»? Просто жить на что-то нужно. Дочку чем-то кормить, помимо «одноразового питания».

Вот и решила Лидия Цингалёва эмигрировать. И будет штурмовать кабинеты московских чиновников, вооружившись огромной кипой бумаг. Крайне маловероятно, что Россия с радостью заключит её в объятия и поможет решить её проблемы — однако дай Бог удачи.



*Лидия Цингалёва с дочерью Лизой.*

Просьбу о предоставлении убежища поддержали несколько политических и общественных организаций Беларуси. Так, правозащитный центр «Весна-96» пришёл к выводу, что *«режим игнорирует права Л.Цингалёвой как личности, и у неё есть основания просить статус политического беженца в демократических странах»*.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

Лешэк БАЛЬЦЭРОВІЧ

# «Сацыялізм. Капіталізм. Трансфармацыя»

*(Фрагменты з кнігі)*

## Як я стаў рэфарматарам

Мне дапамагла мая адукацыя, а пазней і мае даследаванні. У 1970 г. я скончыў факультэт знешняга гандлю ў Варшаўскай школе планавання і статыстыкі (зараз Варшаўская школа эканомікі), магчыма, адзіны эканамічны факультэт у краінах Усходняй Еўропы, які надаваў шмат увагі вывучэнню заходняй эканомікі.

Ад верасня 1972 г. да студзеня 1974 г. я вывучаў менеджмент ва універсітэце Св. Джона ў Нью-Йорку, што дазволіла мне лепш азнаёміцца з макра- і мікраэканомікай Захаду.

З першых дзён сваёй кар'еры вучонага ў мяне было пачуццё, што «ўстановы маюць значэнне», г. зн. за розніцай эканамічнай жыццядзейнасці краіны крыецца розніца саміх эканамічных сістэмаў. Гэта прывяло да таго, што я зацікавіўся правядзеннем эканамічных рэформаў у сацыялістычнай сістэме.

У 1978 г. я стварыў нефармальную групу маладых эканамістаў, якія працавалі над праектам рэформы ў Польшчы. Нас сталі называць «групай Бальцэровіча». Вынікам нашай інтэнсіўнай працы стала дэталёвае абмеркаванне многіх важных пытанняў, прыкладам, як абараніць рабочых кааператыўных прадпрыемстваў ад «паглынання іх прыбыткаў», якія сродкі ўскоснага кантролю ў сферы эканомікі павінна мець дзяржава, як стварыць двух'ярусную сістэму банкаў і якія правы павінны мець органы мясцовага кіравання.

Калі ў жніўні 1980 г. пачала дзейнічаць «Салідарнасць», узнік попыт на «сацыяльныя» неафіцыйныя праграмы эканамічнай рэформы, і праект «групы Бальцэровіча» многімі быў прызнаны як самы радыкальны і завершаны. Ён выклікаў вялікі інтарэс сярод членаў «Салідарнасці», якая для мяне, як і для мноства іншых палякаў, была не проста прафсаюзам, але шырокім рухам за правядзенне рэформаў. У сакавіку 1981 г. я быў абраны віцэ-намеснікам Эканамічнай асацыяцыі Польшчы і адказваў за правядзенне эканамічнай рэформы. Але ў снежні 1982 г. я пакінуў гэтую пасаду, бо лічыў, што ў сітуацыі, якая склалася пасля ўвядзення ваеннага становішча, для правядзення радыкальнай эканамічнай рэформы шанцаў надта мала.

У верасні 1989 г. разам з членамі першапачатковай групы і тымі, хто далучыўся да яе пазней, я ўвайшоў у склад урада. Ніхто з членаў каманды па эканамічных пытаннях не сумняваўся ў неабходнасці радыкальнага змянення эканомікі. Нас цікавіла, чаму эканамічныя рэформы ў сацыялістычных краінах былі часткова альбо цалкам «перавернутыя» і чаму яны не прынеслі хоць колькі значнага павелічэння эфектыўнасці вытворчасці. Мой агульны адказ на гэтыя пытанні быў такі: з-за недастатковай радыкальнасці эканамічныя рэформы не дасягалі пэўнага парогу неабходных змяненняў за кароткі час; іншымі словамі, не была дасягнута «крытычная маса» змяненняў. Такім чынам, у склад урада я ўваходзіў з моцнымі «антыградуалісцкімі» настроямі адносна эканамічнай рэформы.

Адносна зместу «крытычнай масы», я лічыў, што ў цэнтралізаванай эканоміцы была свая «канструкцыйная логіка»: як нерыначная эканоміка, яна абапіралася на планы, нармаванне і адміністратыўныя цэны, што патрабуе манапалістычных і вельмі канцэнтраваных арганізацыйных структураў. Утрымліваць такія структуры можна толькі тады, калі арганізацыйныя правы, г. зн. правы на заснаванне, рэарганізацыю і ліквідацыю прадпрыемстваў знаходзяцца пераважна ў руках дзяржавы. Згодна з такім поглядам «крытычная маса» павінна зламаць «канструкцыйную логіку» сістэмы праз лібералізацыю цэнаў і замежнага гандлю, зняцце ўсіх элементаў цэнтральнага размеркавання тавараў і паслугаў, ліквідацыю ўнутраных манаполіяў і дэцэнтралізацыю арганізацыйных правоў, іншымі словамі, праз увядзенне свабоды прадпрымальніцтва.

Вясной 1989 г. я напісаў працу аб высновах, якія дае азнаямленне з сітуацыяй у розных эканоміках і з тэорыяй адносна пажаданых змяненняў у эканоміцы Польшчы. У мяне і ў думках не было, што праз некалькі месяцаў я буду адказваць за стабілізацыю і пераўтварэнне эканомікі краіны і што сфармуляваная для кнігі тэорыя стане эканамічнай праграмай, прынятай увосень 1989 г.



*Лешэк Бальцэровіч — палітык і вучоны, прызнаны і на Захадзе, і на Усходзе. Прафесар эканомікі ў Інстытуце эканомікі ў Варшаве і рэктар двух варшаўскіх інстытутаў — Цэнтра эканамічных і сацыяльных даследаванняў і Фонду эканамічнай адукацыі. Сябра праўлення Інстытута міжнароднай эканомікі ў Вашынгтоне. Лешэк Бальцэровіч вядомы як аўтар эканамічных рэформаў у Польшчы, якія здзейсніліся з поспехам.*

## Дыягназ і тэрапія

Калі я ўвайшоў у склад урада, асноўнай маёй мэтай было скіраваць польскую эканоміку на шлях эфектыўнасці і паляпшэння сярэдняга ўзроўню жыцця. Для гэтага патрабавалася выправіць катастрафічнае становішча макраэканомікі і вырашыць структурную праблему нізкай эфектыўнасці. З самага пачатку я добра разумеў, што з-за атрыманай у спадчыну гіперінфляцыі мы мусім выбіраць паміж стратэгіяй амаль безнадзейнай і стратэгіяй рызыковай.

Гэта была мая думка, што з цягам часу стратэгія «дапушчэння» гіперінфляцыі прывядзе да таго, што стабілізаваць эканоміку будзе яшчэ цяжэй, а з-за хаосу, выкліканага гіперінфляцыяй, хуткае пераўтварэнне, уключаючы прыватызацыю, наўрад ці стане магчымым. Такім чынам, стратэгія — «спачатку прыватызацыя, потым стабілізацыя», магчыма, не прывяла б ні да прыватызацыі, ні да стабілізацыі.

Разумна было выбраць стратэгію хоць і рызыковую, але ж не безнадзейную: меры па стабілізацыі і пераўтварэнні мусілі распачацца амаль адначасова. Стабілізацыю і лібералізацыю як часткі праграмы пераўтварэнняў можна было праводзіць хутчэй за прыватызацыю ды іншыя рашучыя арганізацыйныя рэформы.

Я адчуваў нейкую долю няўпэўненасці, што абраная стратэгія будзе ажыццяўляцца і мець падтрымку. Аднак маёй задачай, калі я згадзіўся прыняць пасады намесніка прэм'ер-міністра і міністра фінансаў, было «падштурхнуць» радыкальную стратэгію, бо самі па сабе пасады мяне не вабілі. Найгоршым сцэнарыем, па якім маглі развівацца падзеі, было б кіраваць эканамічнай праграмай, якая, хоць і была б прымальнай у палітычным плане, але з-за недастатковай радыкальнасці і паслядоўнасці абвалілася б. Магчыма, галоўнай крыніцай гэтай няўпэўненасці былі польскі злоты: мы вырашылі зрабіць яго канвертуемым. Але ў нас не хапала валюты. Менавіта таму было так важна атрымаць адзін мільярд долараў ЗША для фонда стабілізацыі.

Практычна аб ніводным эканамічным пытанні нельга было сказаць нічога пэўнага. Напрыклад, выказваліся супярэчлівыя гіпотэзы наконт таго, з якой хуткасцю надыдзе хваля буйнога павелічэння цэнаў, іншымі словамі, як будзе развівацца інфляцыя. Я не ведаў, як доўга мы здолеем утрымаць валютны курс на першапачатковым узроўні. У нас не было ўпэўненасці і ў тым, калі і які размах набудзе банкруцтва прадпрыемстваў. На самой справе, яно пачалося пазней і не мела такога вялікага размаху, якога чакалі мы. Мы прадказвалі ўмераны рост экспарту ў 1990 г. На справе ён проста «ўзарваўся» — вырас на 43%.

На маю думку, трэба было стварыць макраэканамічную праграму, якая б для спынення гіперінфляцыі і стабілізацыі эканомікі дысцыплінавала фінансавую і валютную палітыкі. Аднак тут узнікаў іншы немалы клопат. Па-першае, праграма павінна была суправаджацца жорсткім кантролем за ўзроўнем заробку, каб ён не падвышаўся. Па-другое, нашу пашыраную праграму трэба было звязаць з радыкальнай лібералізацыяй цэнаў і замежнага гандлю, бо перад намі стаяла задача не толькі стрымаць інфляцыю, але і ліквідаваць нястачы.

Праблема нізкай эфектыўнасці патрабавала фундаментальнага змянення эканамічнай сістэмы. Польшча толькі набыла свабоду выбіраць пажаданую форму дзяржаўных інстытутаў, і нам не прыходзілася шукаць «трэцяга» рашэння. Мы маглі ўвасобіць у жыццё найменш кепскую з усіх існуючых у свеце эканамічную сістэму — канкурэнтную капіталістычную рыначную эканоміку. Арганізацыйнае пераўтварэнне таксама ўключала радыкальныя змены ў сферы сацыяльнай бяспекі (прыкладам, заснаванне механізмаў, якія б займаліся праблемамі адкрытага беспрацоўя і замацаваннем запланаванай сацыяльнай дапамогі).

Я разглядаў эканамічныя рэформы як адзіны пакет радыкальных усеабдымных мераў, якія дапаўняюць адна адну. Сярод захадаў па лібералізацыі вызваленне цэнаў было мерай вырашальнай, неабходнай для хуткай ліквідацыі нястачы і атрымання поўнай інфармацыі аб цэнах. Радыкальная лібералізацыя цэнаў патрабавала, на маю думку, рашучай лібералізацыі замежнага гандлю, што, у сваю чаргу, закранала уніфікацыю валютных курсаў і канвертуемасць валюты. Лібералізацыя таксама здымала абмежаванні на стварэнне і развіццё прыватных фірмаў. Гэта з'явілася важнай часткай легальнай асновы эканамічнай дзейнасці, бо адкрывала магчымасці для спантаннага росту прыватнага сектара. Ключавым момантам рэканструкцыі інстытутаў была прыватызацыя прадпрыемстваў. Прыватызацыю я разглядаў як самы важны від рэформы прадпрыемстваў і самую важную ўмову для іх рэканструкцыі. Павелічэнне колькасці прыватных прадпрыемстваў, на маю думку, было вырашальным для асноўнай структурнай праблемы (ад якой у гэтым плане пакутавалі ўсе постсацыялістычныя эканомікі): нізкая, са схільнасцю да падзення эфектыўнасць. Аднак я памятаў, што патэнцыял, уласцівы прыватнаму сектару, можна праявіць цалкам толькі ва ўмовах канкурэнцыі і знешняй накіраванасці эканомікі. Менавіта таму важным складальнікам для прыватызацыі і важнай умовай для павелічэння агульнай эфектыўнасці эканомікі быў ліберальны рэжым замежнага гандлю.

Важную ролю пераважна для праграмы пераўтварэння эканомікі іграла правядзенне рэформы ў падатковай сістэме. Адным з галоўных напрамкаў дзейнасці ў гэтай сферы была ліквідацыя шырока практыкуемых саступак і паслабленняў пры выплаце падаткаў. Я лічыў гэта неабходнай умовай для больш жорсткага «абмежавання бюджэту» прадпрыемстваў і для ўзнікнення рынку.

*(Працяг будзе)*

# Гандлюй і маўчы

У мінулую нядзелю на буйным рэчавым рынку «Паўднёвы» ў Гродне былі затрыманыя чатыры актывісты, якія распаўсюджвалі свежы нумар бюлетэня «Предприниматель». Гэта — выданне прафсаюза прадпрымальнікаў «Паўднёвага». Абараніць калегаў прыехаў старшыня прафсаюза Валеры Леванеўскі. З ім нашая гутарка.

**— Валеры, ці былі ў міліцыі падставы, каб затрымаць вашых распаўсюджвальнікаў?**

— Самае дзіўнае, што зрабілі гэта ўвогуле не міліцыянты. Да хлопцаў падышлі супрацоўнікі рынку, з імі быў, як лічаць хлопцы, нехта з падатковай службы. Гэтыя людзі прапанавалі прайсці ў аддзел міліцыі, які знаходзіцца на рынку, для разбіральніцтва. Пад пагрозамі яны мусілі туды ісці. На кожнага з чатырох міліцыянты склалі пратакол.

**— Што напісана ў пратаколах?**

— Выкананы яны стандартна: маўляў, у кожнага забраны інфармацыйны бюлетэнь, які будзе знаходзіцца ў Кастрычніцкім РАУС горада «да вырашэння пытання па сутнасці». Апроч гэтага, у Аляксея Курбата былі забраныя спісы прафсаюзнікаў і сабраныя ў іх складкі — 5 мільёнаў рублёў.

**— Навошта міліцыі спатрэбіліся прафсаюзныя паперы, як ты лічыш?**

— Па-першае, я павінен зазначыць, што гэта парушэнне Закона аб прафсаюзах. У Крымінальным кодэксе ёсць артыкул, у якім гаворыцца пра адказнасць за ўчыненне перашкодаў у дзейнасці прафсаюзаў. Дзяржава, дарэчы, мае права кантраляваць толькі іхнюю камерцыйную дзейнасць, а не збор грашовых складак. Каб знайсці нейкае апраўданне сваіх дзеянняў, міліцэйскі інспектар сказаў мне, што паводле адабранага спісу, у якім больш за 70 прозвішчаў, яны спраўдзяць, ці ўсе гэтыя асобы з'яўляюцца членамі нашага прафсаюза.

**— А колькі ўсяго ў ім членаў?**

— Шэсцьсот. Я баюся, што людзі, якія ёсць у гэтым спісе, могуць потым мець непрыемнасці. Ва ўсякім разе, з боку адміністрацыі рынку, якая распараджаецца гандлёвымі месцамі.

**— Як усё ж-такі патлумачыла міліцыя прычыну затрымання распаўсюджвальнікаў? Хіба гэтым забаронена займацца?**

— Інспектар Чумакоў на ўсе пытанні адказваў прыблізна аднолькава, накшталт: ад каментарыяў устрымаюся, у судзе ўсё даведаецеся альбо — я не ўпаўнаважаны адказваць на гэтае пытанне.

**— Што ж крамольнага было надрукавана ў вашым бюлетэні?**

— У ім расказваецца, як будзе праводзіцца агульнабеларуская акцыя пратэсту 27 студзеня і як у ёй збіраемся ўдзельнічаць мы. У перадавіцы прадпрымальнікі заклікаюцца стварыць альтэрнатыўную ўладам сілу, якая ўратуе незалежнасць і суверэнітэт нашай краіны. Працытую некалькі сказаў: «Дзяржава — гэта мы, а не тыя, хто часова захапіў уладу... Сёння ёсць праблема кіраўніцтва краіны. Пытанне, калі мы пачнем жыць па агульначалавечых законах, а не па правілах, усталяваных рэжымам, мы павінны вырашыць разам. Калі хочаце плаціць падаткі і жыць спакойна, а не чакаць, пакуль вас абрабуе, прынізіць ці пасадзіць па фармальных і надуманых прыкметах родная дзяржава ў асобе прэзідэнта, далучайцеся да агульнанацыянальных акцыяў пратэсту». Вось такі заклік. Яшчэ на першай старонцы змешчаны лозунг «Новы год з новым прэзідэнтам!»

**— Як вы думаеце дзейнічаць надалей?**

— У пракуратуру будзе пададзеная заява аб незаконным затрыманні чатырох нашых актывістаў. А таксама будзем хадайнічаць, каб была распачата крымінальная справа адносна парушэння законных правоў прафсаюза.

*Гутарыў*
**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**Ад аўтара:** *У канцы снежня ў «Паўднёвым» міліцыя двойчы затрымлівала «для высвятлення асобы» сына Валерыя Леванеўскага Дзмітрыя, якому 14 гадоў. Ён дапамагаў бацьку ў прафсаюзных справах. Факт затрымання хлопца не быў зафіксаваны пісьмова. Санкцыі пракурора на яго абшукванне (як непаўналетняга) тым больш не было. Бацька падаў заяву ў пракуратуру наконт гэтых парушэнняў, але адказу — у вызначаны законам тэрмін — не дачакаўся. Такім чынам уціск робіцца не толькі на прафсаюз прадпрымальнікаў, але і на яго лідэра асабіста.*

# Жанчына, якая перамагае лёс

Дваццацігоддзе творчасці адзначае спявачка і самадзейны кампазітар Вольга Патрый — жанчына светлага таленту і няпростага лёсу.

Сустрэча з творчасцю гэтай невідушчай спявачкі — заўсёды свята. Яе прыгожы голас — лірычнае сапрана — нібы сатканы са шчымлівай тугі і ціхай радасці.

Яшчэ ў школьным узросце, калі Вольга вучылася ў Гродзенскай спецшколе для невідушчых, яна зразумела, што галоўнае яе багацце — голас. Ёй вельмі хацелася вучыцца, каб атрымаць музычную адукацыю, але ў музычнае вучылішча яе не прынялі. Усе захапляліся яе спевамі, але ніхто з кампазітараў не асмельваўся прапанаваць ёй першае выкананне сваёй песні. Нарэшце Вольга знайшла творчы кантакт з таленавітым кампазітарам Аляксандрам Арэхавым. А потым — з Марынай Марозавай. Яе песні «Музыка маёй душы», «Беражы мяне, мой талісман», «Я не кахаю вас» у выкананні Вольгі Патрый гучалі на радыё. Неўзабаве яна самастойна навучылася іграць на фартэпіяна і ствараць песні. Іх ужо каля ста. Кожная яе песня — маленькая споведзь відушчай Душы.

*«Першая мая песня з'явілася ў 1989 годзе,* — успамінае Вольга. — *Пісала ўадчаі, сцяўшы зубы. Садзілася за фартэпіяна і працавала да поўнай знямогі. Балела спіна, «заклалі» ад напругі мазгі, але я не здавалася... З песняй хачу глядзець на люстры».*



*Вольга Патрый*

Вольга Патрый асмелілася выйсці да шырокай аўдыторыі. Шмат канцэртаў дае Вольга Патрый у камерных асяродках, у малых аўдыторыях. Ёй вельмі важна адчуваць слухача, яго настрой. У вольны час спявачка любіць пачытаць літаратуру (па Брэйлю). Пад настрой гатуе рыбныя катлеты, якімі любіць частаваць сяброў. А яшчэ Вольга вельмі цэніць незалежнасць — у жыцці і творчасці. Па-сапраўднаму яна адданая толькі Песні, якая ратуе яе ў цяжкія хвіліны.

**Святлана АЛЕКСАНДРОВІЧ**

## Два мільярды на старадрукі

**Фонды Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі папоўніліся калекцыяй старадрукаваных кніг і рукапісаў XVII — пачатку XIX стагоддзяў, якая перадавалася ў спадчыну ў адной з стараверскіх абшчын Усходняй Беларусі.**

Як паведаміла загадчык аддзела рэдкай кнігі бібліятэкі Таццяна Рошчына, набыццё гэтых рарытэтаў стала магчымым пасля атрымання прэзідэнцкага гранта ў памеры двух мільярдаў рублёў.

Таццяна Рошчына са шкадаваннем адзначыла, што грошай хапіла толькі на набыццё 8 рукапісаў і 12 старадрукаваных кніг з калекцыі, якая ўключае 45 найменняў, а таксама на пакупку 29 асобных кніжных выданняў XVII-XVIII стагоддзяў. Сярод набытых рарытэтаў — апісанне Белавежскай пушчы з гравюрамі, выдадзенае ў 1828 годзе ў Варшаве на французскай мове і прыжыццёвае выданне паэтычнага зборніка Мікалая Гумілёва «Чужое неба», выдадзенае ў Санкт-Пецярбургу ў 1912 годзе.

*БелаПАН*

## У Гомеля будзе гімн

**Гомельскі гарвыканкам аб'явіў конкурс на лепшы музычны твор пра Гомель.**

Удзел у конкурсе ананімны, што, на думку гарадскіх уладаў, павінна забяспечыць аб'ектыўнасць ацэнкі прац удзельнікаў. У якасці прызоў гарвыканкам зацвердзіў тры грашовыя ўзнагароды ў памеры ад 40 да 60 мінімальных заробкаў. Твор, які зойме першае месца, будзе аб'яўлены гімнам Гомеля і стане абавязковым для выканання на гарадскіх культурна-масавых мерапрыемствах.

Вынікі конкурсу плануецца падвесці летам 1999 года.

*БелаПАН*

## «Аўташоў-99»

**З 28 красавіка па 3 траўня 1999 года ў Мінску пройдзе традыцыйнае веснавое «Аўташоў-99».**

Агульная плошча экспазіцыі, якую плануецца разгарнуць на дзвюх найбуйнейшых выставачных пляцоўках Мінска і ў двух спецыяльна сканструяваных часовых павільёнах, перавысіць 10 тысяч квадратных метраў.

Паводле сведчання арганізатараў, наведвальнікі мерапрыемства змогуць азнаёміцца з вытворчымі праграмамі сусветных лідэраў аўтамабілебудавання. Заяўкі на ўдзел у «Аўташоў-99» ужо прадставілі «Форд», «Фольксваген», «Мазда», «Пежо», «Таёта», «БМВ», «Субару», «Хёндай», «Лэнд-Ровер» і іншыя вядомыя фірмы.

*БелаПАН*

## Проверка уровня стресса

Все мы часто находимся в стрессовых ситуациях.

Степень испытываемого стресса можно определить с помощью теста, используемого американскими социологами:

Как часто за последний месяц вы чувствовали себя:

**А/** неспособным контролировать течение важнейших жизненных событий?

*0 Никогда*
*1 Почти никогда*
*2 Иногда*
*3 Довольно часто*
*4 Очень часто*

**Б/** уверенным в своих способностях справиться с личными проблемами?

*0 Очень часто*
*1 Довольно часто*
*2 Иногда*
*3 Почти никогда*
*4 Никогда*

**В/** что все идет к лучшему?

*0 Очень часто*
*1 Довольно часто*
*2 Иногда*
*3 Почти никогда*
*4 Никогда*

**Г/** что трудностей в жизни собралось столько, что с ними вам не справиться?

*0 Никогда*
*1 Почти никогда*
*2 Иногда*
*3 Довольно часто*
*4 Очень часто*

Общая сумма ваших ответов ориентировочно соответствует уровню стресса, в котором вы находитесь. У американцев среднее число составляло для мужчин 4,2, для женщин 4,7. Сравнив свою сумму с этими показателями, можно узнать, насколько вы перегнали среднего американца или отстали от него.

# Календары Юлія Цэзара і папы Грыгорыя

*Чаму адны і тыя ж царкоўныя святы розныя канфесіі святкуюць у розныя дні*

Калі ў 988 годзе візантыйскія святары распачалі хрышчэнне Русі, дык адпаведна пачала выкарыстоўвацца візантыйская эра летазлічэння — «ад утварэння свету». Гэтая дата аддалена ад пачатковай даты новай эры — нараджэння Хрыста — на 5508 гадоў. У Расіі візантыйская эра пратрымалася болей за сем стагоддзяў. Толькі ў 7208 годзе па гэтым злічэнні Пётр І сваім указам увёў эру ад нараджэння Хрыста, і 7208 год «ад утварэння свету» быў заменены на агульнаеўрапейскі 1700 год. У календарах візантыйскай эры год пачынаўся з 1 верасня. У прынятым юліянскім календары новы год пачынаўся з 1 студзеня.

На Беларусі юліянскі каляндар дзейнічаў з XIV стагоддзя ў сувязі з прыходам каталіцтва.

Юліянскі каляндар быў распрацаваны Юліем Цэзарам і матэматыкам Сазігенам. У 325 годзе Нікейскі царкоўны сабор зацвердзіў юліянскі каляндар і акрэсліў адзіныя для ўсёй Рымскай імперыі хрысціянскія святочныя дні. Але юліянскі каляндар меў недакладнасці ў велічыні года, ён запазняўся ад астранамічнага года. У XVI стагоддзі каляндарны дзень веснавога раўнадзенства адставаў ад рэальнасці ўжо на дзесяць сутак. 24 лютага 1582 года рымскі папа Грыгорый XIII спецыяльнай булай увёў новы каляндар, які атрымаў назву грыгарыянскага. Лік дзён быў адпаведна перасунуты наперад (на 10 сутак). Грыгарыянскі каляндар называецца календаром новага стылю, юліянскі лічыцца календаром старога стылю. На Беларусі грыгарыянскі каляндар быў афіцыйна прыняты ў 1586 годзе. Пратэстанты і праваслаўныя з-за тагачаснай варожасці да каталіцтва доўгі час адмаўляліся прызнаваць новы каляндар.

Руская праваслаўная царква трымаецца юліянскага календара і сёння. Таму і застаецца розніца ў 14 сутак паміж днямі хрысціянскіх святаў у каталікоў і праваслаўных. Напрыклад, Божае Нараджэнне заходні хрысціянскі свет святкуе 25 снежня, праваслаўная царква — на 13 дзён пазней. Кожнае стагоддзе павялічвае розніцу ў датах на абодвух календарах на суткі. Яшчэ праз тысячагоддзе розніца паміж святамі каталікоў і праваслаўных складзе месяц.

# Планета тотального опустошения

**О том, в каком состоянии оставим мы нашу планету детям, человечество начало задумываться относительно недавно. Впрочем, и масштабы человеческого воздействия на окружающий нас мир не так давно были еще не столь значительными.**

Не так давно — это значит приблизительно до 1970 года, как показали результаты исследований, опубликованных в докладе международной организации *World Wide Fund for Nature*, более известной под аббревиатурой *WWF*. Так вот, в этом докладе сказано, что именно за период с 1970 по 1995 годы было потреблено более трети всех природных ресурсов нашей Земли. А уже начиная с нынешнего десятилетия скорость истощения основных природных ресурсов повысилась до 3 процентов в год.

Больше всего досталось запасам пресной воды, которые с 1970 года сократились более чем наполовину, и сейчас скорость их использования составляет 6 процентов в год. Природное богатство морской экосистемы также терпит больший по сравнению с остальными ресурсами урон: скорость его истощения составляет 4 процента в год, но из-за более низких темпов потребления в начале наиболее опасного периода общий уровень истощения не превышает средних для всей планеты 30 процентов. Тем не менее международная общественность гораздо больше заботится о сохранении морских экосистем, чем пресноводных водоемов, так как последние кажутся такими неисчерпаемыми...

Точно так же трудно представить себе, что в ближайшее время наша планета может остаться вообще без лесов. Со времени последнего ледникового периода, завершившегося 6—8 тысяч лет назад, площадь поверхности нашей планеты, укрытой лесами, сократилась на 70 процентов, и сейчас ежегодно уменьшается еще на 0,5 процента. Всего же за период с 1970 по 1995 годы эта величина уменьшилась на 10 процентов. Полпроцента — казалось бы, величина не очень большая, но это равнозначно тому, что каждый год с нашей планеты исчезает лесной массив, по площади равный Англии с Уэльсом или половине Норвегии.

Под угрозой исчезновения находится и значительное количество видов животных и растений нашей планеты. Правда, отношение к живой природе сильно различается в разных странах и регионах. Так, например, самым варварским отношением к живой природе, как оказалось, характеризуется население острова Маврикия, на котором 40 процентов видов животных находятся под угрозой исчезновения. В Новой Зеландии, на Мадагаскаре, Филиппинах, Гаити, Кубе и в Австралии на грани исчезновения находится 10 процентов от общего числа видов живой природы. Относительно высока угроза исчезновения отдельных видов в Юго-Восточной Азии, Соединенных Штатах Америки, России и на севере Африки, зато в Центральной и Южной Африке, Канаде и Западной Европе человеческая деятельность дикой живой природе практически не угрожает.

Отношение к природным ресурсам также сильно различается в разных странах. Для его оценки разработан специальный индекс потребления. В Норвегии, например, этот показатель в пересчете на душу населения в 4 раза превосходит средний по планете. В целом же по странам лидирует Китай, за ним идут США, Индия, Пакистан и Россия. По регионам наибольшее давление на природу оказывается в Северной Америке (приблизительно в 2,7 раза выше, чем в среднем по планете), затем идут Западная Европа, Центральная и Восточная Европа, Ближний Восток и Центральная Азия, Латинская Америка, а заключает список Африка.

Немаловажным фактором влияния человеческой деятельности на экосистему нашей планеты является выброс углекислого газа. С 1960 года этот показатель увеличился в 3 раза, в Сингапуре, например, ежегодно выбрасывается в атмосферу до 36 тонн углекислоты в пересчете на душу населения. За Сингапуром вплотную следуют Кувейт, ОАЭ, США и Норвегия. В целом по районам сильнее всего загрязняет атмосферу Северная Америка, Центральная и Восточная Европа и Азия.

Система природоохранных мер, как можно заключить из показателей, приведенных в этом докладе, в отношении наиболее развитых и цивилизованных государств постепенно уже начинает срабатывать. Дело теперь за немногим — чтобы весь остальной цивилизованный мир окультурился раньше, чем вымрет дикая природа нашей планеты.

*© Mirror Weekly*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 496 Нумар падпісаны ў друк 12/01/99 (15:00) Наклад — 17.720